# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 3 (1497) ГОД XXX БЕЛАСТОК 20 СТУДЗЕНЯ 1985 г. ЦАНА 8 зл.




Ціха і спакойна на хутары ў Рамана Мардаця. Да „Партызанскіх сцежак“ стар. 6.

## СОЛЬ ЗЯМЛІ НАШАЙ

Амаль **15 мільярдаў** злотых складае ў гэтым годзе бюджэт Беластоцкага ваяводства, дакладна **14.770.335.000 зл.**

Так пастанавіла Ваяводская рада нарадовая, чарговая сесія якой адбылася 18 снежня мінулага года. Была гэта апошняя сесія ў 1984 годзе. Мела яна багатую праграму і прайшла вельмі працавіта. Адзін пералік найважнейшых пастаноў, якія ў час гэтай сесіі прымалі радныя, найчасцей аднагалосна, заняў бы надта многа месца. Абмяжуюся, на маю думку, важнейшымі пастановамі, з якіх на першае месца вылучаецца...

### ПЛАН І БЮДЖЭТ...

на 1985 год. Старшыня прэзідыума ВРН, праф. **Мар'ян Шаматовіч**, з гонарам адзначыў, што Беластоцкае ваяводства як другое ў краіне ўвайшло ў новы год з дакладна апрацаваным планам і бюджэтам, ведаючы, чаго патрабаваць ад грамадзян і чаго грамадзяне на Беласточчыне могуць спадзявацца ад сваіх прадстаўнікоў у радах нарадовых і ад дзяржаўнай адміністрацыі, падпарадкаванай гэтым радам.

Асновай да апрацоўкі ваяводскага гадавога плана сталі пастановы справаздачна-выбарных канферэнцый ваяводскіх камітэтаў ПАРП і ЗСЛ, а таксама ваяводская выбарчая праграма ПРОН і ўказанне цэнтральнага гадавога плана ў адносінах да Беластоцкага ваяводства.

Праект так збудаванага плана яшчэ кансультаваўся на буйных прадпрыемствах і ў грамадскіх арганізацыях, а затым крытычна апэньвалі яго дзве камісіі ВРН. Урэшце трапіў гэты план у рукі радных, а ў час сесіі яшчэ і сам ваявода **Казімеж Дунай** намагаўся пераканаць усіх прысутных у такім, а не іншым размеркаванні сродкаў (усё замалых!) на ажыццяўленне патрэб ваяводства.

Пішу аб гэтым, бо мяркую, што варта мець хаця б прыблізнае ўяўленне аб гэтым складаным працэсе, у час якога нарадзілася пастанова **Ваяводскай рады нарадовай у Беластоку ад 18 снежня 1984 года па справе ваяводскага гадавога плана і бюджэту Беластоцкага ваяводства на 1985 год.**

Ажыццяўляючы гэты план, прадбачваецца дасягнуць у 1985 годзе 4 асноўныя мэты:

**1. Павелічэнне прадукцыі харчоў шляхам стварэння спрыяльных умоў для сельскагаспадарчай вытворчасці і пераапрацоўкі прадуктаў вясковай гаспадаркі.**

**2. Палепшыць доступ насельніцтва да прамысловых вырабаў штодзённага ўжытку шляхам павышэння рыначнай прадукцыі.**

**3. Стварыць умовы для развіцця жыллёвага будаўніцтва, асабліва спулдзельчага і прыватнага, з адначасовай разбудовай усіх тэхнічных абсталяванняў і пунктаў грамадскіх паслуг, неабходных для спакойнага жыцця насельніцтва.**

**4. Павысіць узровень апекі ў галіне аховы здароўя, а таксама палепшыць умовы выхавання і навукі дзяцей і моладзі.**

Ваяводская рада нарадовая і дзяржаўная адміністрацыя дзейнічаюць зараз ва ўмовах поўнага ажыццяўлення гаспадарчай рэформы, у рамках якой самастойныя прадпрыемствы і спулдзельчыя арганізацыі зусім не абавязаны слухаць раду і ваяводу. У сваёй „загродзе“ кожны роўны ваяводзе. Тым больш складанае і цяжкае становішча адміністрацыйнай і прадстаўнічай улады. **Леапольд Рыбакевіч**, адзін з віцэ-ваяводаў, калі адказваў на інтэрпеляцыі і пытанні радных, неаднаразова бездапаможна раскладаў рукі, што, маўляў, дзяржаўная адміністрацыя мае вельмі абмежаваны ўплыў, напрыклад, на спулдзельчы вясковы гандаль, на сельскагаспадарчыя гурткі і іх спулдзельні, а таксама на мно-

(Працяг на стар. 7)

БЕЛАРУСКІЯ ЛЮДЗІ

## ДАРЫ БЕЛАРУСКАМУ МУЗЕЮ

Андрэй жыве адзін, у хаце, што стаіць пасярэдзіне вялікай, шыpокавулічнай вёскі Відава ў Бельскай гміне. Ад ранняй маладосці вымушаны быў уступіць у суровы бой з лёсам за сваё існаванне на зямлі.

Пасля заканчэння будаўнічай школы працаваў у бельскім „Бэпе“ і тады перажыў першае выпрабаванне: запаленне мазгавой абалонкі. Быў паралізаваны і невялікія сляды таго засталіся. Потым, працуючы ў вясковай мяшальні пашаў, упаў і ўдарыўся галавой, пачаліся нясцерпныя болі. У бельскай бальніцы зрабілі яму трэпанацыю чэрапа.

**Андрэй сам называе цудам той факт, што жыве. Перамог няпешчаны арганізм і моцны дух гэтага беларускага хлопца.**

**Выразна адрозніваецца Андрэй добрымі рысамі характару: смелай і ўпартай умеласцю знаходзіць годнае месца ў жыцці, знаходзіць сувязі, з якіх чэрпае сілы.**

Жыццёвым шанцам Андрэя стала „Ніва“ і з ёю ўся беларуская справа. Самасвядомасці сваёй і прывязанасці да „Нівы“ можна ў Андрэя павучыцца. Ён без комплексаў усюды чытае „Ніву“ і шукае прыхільнікаў — людзей, якія цікавяцца, хочуць ведаць, слухаць і пра беларусаў, і пра іх жыццё. А хто шукае — той знаходзіць, вядома. Ад 1976 г. Андрэй — карэспандэнт „Нівы“. Перажыўшы страшэнныя хваробы, не загубіў імкненняў да вышэйшых узлётаў і жывучы часта ў матэрыяльнай нястачы і беднасці, адваяваў права на шырокі духоўны кругазор.

У наш час (перамога **мець** над **быць**) некаторым смешнымі могуць выдацца такія старыя прыкметы (якія захаваліся ў Андрэя), як сваякія, братэрскія адносіны да іншых людзей і гатоўнасць бескарысна служыць блізкай сэрцу ідэі.

І вось пра гэтае апошняе.

Андрэй Гаўрылюк даўно расказваў з захапленнем, што з усяго пакінутага бацькамі ён у сваёй хаце зрабіў беларускі музей, „мая беларуская хата“, — казаў.

І вось, калі ўрэшце ажылі пачаткі Беларускага музея ў Гайнаўцы, Андрэй паведаміў у Галоўнае праўленне Беларускага таварыства, што ён бясплатна

(Працяг на стар. 2)

НА МЯЖЫ

# АБ ЦАНЕ ПАПУЛЯРНАСЦІ

## ЧАСТКА VIII

З паўтары тысячы аўтарскіх сустрэч, якія я правёў на працягу дваццаці пяці гадоў свайго літаратурнага жыцця, прынамсі сорак-пяцьдзесят было праведзена мною ў Варшаўскім аддзеле БГКТ. Зразумела, што маю тут на ўвазе не толькі вечары, у часе якіх я чытаў свае творы, але таксама і тыя спатканні, якія былі прысвечаны такім ці іншым літаратурным падзеям. Вядома, што паэт, інтэрпрэтуючы творчасць іншых аўтараў, мімаволі вымушаны выяўляць сваё літаратурнае нутро, сваё разуменне свету. Значыць, займаючыся іншымі аўтарамі, праяўляе сваё творчае credo...

Як вядома, я ўжо болей як чвэрць стагоддзя працую на кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта. Пад маім кіраўніцтвам, значыць і з маёй дапамогай, больш як пяцьдзесят студэнтаў напісала магістэрскія працы, што, несумненна, гэтым асобам памагло і памагае ў жыцці. Зразумела, што дапамога студэнтам з'яўляецца маім абавязкам, за які дзяржава мне плаціць грошы.

Студэнты беларускай філалогіі, зразумела, на працягу пяці гадоў навучання знаходзяцца ў цеснай сувязі з літаратурай, галоўным чынам беларускай літаратурай. Здавалася б, што яны павінны быць „заражаны" беларускай літаратурай. На вялікі жаль, у большасці выпадкаў так добра гэта справа не выглядае.

На чым абапіраю гэта сцвярджэнне? Між іншым, на тым, што на ўспомненых мною сарака-пяцідзесяці маіх аўтарскіх сустрэчах, разам узятых, не было, мабыць, болей як сарак-пяцьдзесят студэнтаў кафедры беларускай філалогіі. З тых зборнікаў, якія я выдаў у сваім жыцці, не болей чым некалькі дзесяткаў набылі мае студэнты. Прынамсі столькі звярнулася за аўтографамі.

Зразумела, што з гэтага факту нельга рабіць фальшывых высноў. Справа ў тым, што выкладчык можа прыесціся студэнтам і, маючы яго па самае горла на абавязковых занятках, яны, мона, не маюць жадання яшчэ раз яго аглядаць і слухаць на аўтарскім вечары, які ёсць формай заўсёды дабравольнай. І яшчэ адна магчымасць. Студэнтам можа не адпавядаць якраз характар маёй паэзіі. Калі б так было, нельга ў ніякім выпадку мець да іх прэтэнзіі, бо кожны чалавек, у тым ліку і студэнт, мае права на свой густ і свой выбар.

Ведаючы аб гэтым, пачаў я цікавіцца, як выглядае прысутнасць нашых студэнтаў-філолагаў на аўтарскіх сустрэчах іншых „белавежцаў" або савецкіх аўтараў, якія час ад часу наведваюць Варшаву. На жаль, інфармацыі ў гэтай справе не маюць аптымістычнага характару. Удзел нашых студэнтаў у гэтых

(Працяг на стар. 6)

(Працяг са стар. 1)

аддасць большасць сваіх экспанатаў гэтаму музею.

Варта прыгледзецца ім бліжэй. Выгляд хаты знутры. Сцены абвесіў народнымі, вытканымі мамай дзвюхаснавовымі пасцілкамі і дыванамі. Узоры — пераважна кубікі і іх камбінацыі. Па берагах пеўнікі паразмяўлялі дзюбы — співаюць. Тыпова беларускае ткацтва, з танненышых матэрыялаў, бо вайна, відаць, ішла на вопратку. На гэтых народных дыванах партрэты і карціны з часопіса „Беларусь". Не пейзажы. Людзі, са спадчынай якіх Андрэй жыве — іх творы займаюць цэлую полку ў яго бібліятэцы.

Найперш партрэты Янкі Купалы і Якуба Коласа. Потым: Купала чытае вершы, Купала ў Багдановіча, Якуб Колас і Янка Купала разам, Янка Купала ў Цёткі. А пад імі два вышываныя ручнікі.

А вось дары музею: уцюг на вугаль (драўляны) з дымнікам, уцюг без дымніка, гладункі, дваячкі, у якіх насілі ежу ў поле, берды для тонкага палатна, з якога шылі сарочкі і нават кофты, церніца для ільну, калаўротак, снавальніца, матавіла вялікае з ручкай збоку і матавіла на руку, ступа з таўкачом, жорны, дзежка, станок для навівання шпуляў, вітушка, шпулькі, лапата, якой садзяць хлеб у печ, штыхі, якімі капаюць торф, пяцізуб, якім ловяць рыбу, шчоты з арэшніка (бацька сам зрабіў), сярпы, газнікі (без шкла), звянок да шыткаў, сякера, долата, стары сякач, тара, нічаніцы, берды для таўсцейшага палатна, качалка (валок) на бялізну, жарэбік (які моцна вяжа снапы), трапачка ільну, каса, бочачка, выдаўбленая з аднаго пня — можа на муку ці крупы, капылы, гэбаль, шуфля, якой сеюць жыта, піла, рэшата, кросны — розныя іх часткі, якія раскладаліся на лета, каб менш займалі месца, а зімой гаспадыня „ставіла кросны".

Пры нагодзе музея хачу закрануць адну справу. У буду-

# ДАРЫ БЕЛАРУСКАМУ МУЗЕЮ

чым беларускім музеі трэба зрабіць аддзел для духоўнай культуры беларусаў. Захаваліся па людзях, па хатах, па вёсках каштоўныя сведкі высокай і глыбокай духоўнай культуры нашых продкаў, якім цяжка жылося, гэта праўда, але якія, нягледзячы на ніякія цяжкасці і перашкоды, захавалі сваю самабытнасць, сваю мову, веру, сваё чалавецтва.

Гэта вельмі важна, бо якраз у гэтакіх экспанатах маладыя могуць знайсці адказ на многія свае нецярплівыя пытанні — не пра матэрыяльны быт, а пра духоўнае аблічча свайго народа, пра яго думкі, пошукі, імкненні — пра тую багатую ўнутраную сферу, якая памагла людзям захаваць сябе. Гэтым можна і трэба ганарыцца. А маладыя хочуць мець падставы, каб беларусамі звацца. І такія падставы павінен беларускі музей ім даць. З якой чуллівасцю гляджу на сшытак, запісаны згрубелымі пальцамі, з памылкамі і нязграбна.

Малітвы, каноны веры, павучэнні (сказание и поучение О Второмъ Пришествии Господа Нашего Иисуса Христа на землю), апавяданні, назіранні, думкі — усё запісвалі, чыталі, вывучалі. Куплялі кніжкі, газеты. Горача маліліся Богу, які ўвасабляўся ў іконах і святых абразах, але таксама і ў шумлівых лясах, ціхіх гаях, у буры і дождж, у прасторы палёў і ў вузкіх палосках.

Нашы продкі пакінулі багатую спадчыну сваёй непаўторнай, нідзе больш неспатыканай духоўнай культуры. І няхай блізкі і далёкі, свой і чужы наведвальнік Беларускага музея ў Гайнаўцы ўбачыць не толькі тое, чым працаваў Беларускі Чалавек, але няхай пачуе і голас яго несмяротнай душы. Няхай сучасны чалавек, у якога здабыванне матэрыяльнага дабра і бегатня ў пошуках багацця сталі асновай жыцця, прызадумаецца... Сведкі мінулага „шмат чаго нам гавораць — толькі слухаць душой".

**Вера Леўчук**

# ВЕСТКІ з БССР

## ДАПАМОЖА КАМП'ЮТЭР

Надзейнасць, спраўнасць і доўгі тэрмін службы забяспечыць перспектыўным мадэлям вялікагрузных „БелАЗаў" бартавыя камп'ютэры. Вучоныя Інстытута праблем надзейнасці і даўгавечнасці машын Акадэміі навук Беларусі завяршылі распрацоўку алгарытмаў работы аўтаматычнай сістэмы кіравання трансмісіяй аўтамабіля.

Аналізуючы сігналы, што паступаюць з датчыкаў скорасці і нагрузкі, мікрапрацэсарная тэхніка сама выбера найбольш эканамічную перадачу, на якой неабходна рухацца аўтамабілю. Пры гэтым ЭВМ гатова ўлічваць пажаданні вадзіцеля. Калі ўмовы эксплуатацыі патрабуюць, напрыклад, павялічыць скорасць разгону машыны — уключаецца дынамічная праграма, у іншых выпадках — камп'ютэр пераналаджваецца на рэжым эканоміі.

Пастаянна апытваючы датчыкі тэмпературы і ціскаў гідрамеханічнай трансмісіі, мікрапрацэсар папярэдзіць шафёра нават аб самых нязначных адхіленнях ад нормы, а калі непаладкі небяспечныя, спыніць машыну.



На здымку дэлегацыя Асацыяцыі „Канада—СССР" на Беларускім аўтамабільным заводзе.

## СПОРТ

■ На першынстве краіны па скачках у ваду мінчанка Святлана Аляксеева заваявала залатц медаль. У яе таварышча па зборнай рэспублікі Сяргея Кудрэвіча другое месца ў скачках з трампліна.

■ Чатыры сусветныя і два рэкорды краіны — такі вынік выступленняў савецкіх канькабежцаў на матчы СССР-ГДР.

Асабліва парадаваў мінчанін Ігар Жалязоўскі. На гэтых спаборніцтвах ён устанавіў сусветныя рэкорды ў бегу на 500 метраў і ў спрынтарскім мнагабор'і.

■ У Магілёве прайшоў усесаюзны турнір па барацьбе дзюдо, прысвечаны памяці Героя Савецкага Саюза Фёдара Смалячкова.

За асабістую і камандную перамогу вялі барацьбу 284 спартсмены з 20 гарадоў краіны. Найбольшага поспеху дамагліся дзюдаісты Магілёва. Яны занялі першае агульнакамандное месца.

■ Пераможца турніру Кубка „Цюніці" мінчанін Юрый Балабанаў першынстваваў у практыкаваннях на кольцах на міжнародных спаборніцтвах у алімпійскім палацы „ЙоЙогі" ў Японіі.

## „БЕЛАРУСЬ" У ІНДЫІ

Першыя трактары славутай маркі „Беларусь" сышлі са зборачнага канвеера ў прамысловым горадзе-спадарожніку Дэлі — Фарыдабадзе. Іх выпуск пачаты індыйскай кампаніяй „Ісці індастрыал карпарэйшн" па кантракту, заключанаму летась.

Трактар „Беларусь" добра вядомы ў Індыі як вельмі надзейная, выдатна прыстасаваная да эксплуатацыі ў мясцовых умовах машына. У свой час Індыя закупіла значную колькасць беларускіх трактароў, дэталі да якіх пастаўляе Савецкі Саюз.

Як мы ўжо сказалі, апошнім акордам радзінна-хрысціннай абраднасці была хрысцінная бяседа. У некаторых вёсках Сакольшчыны выступаў цікавы звычай. Заключаўся ён у тым, што кумы павінны былі сядзець роўна, добра выпраставаныя і прытуленыя да сябе. Рабілася гэта з той мэтай, каб у дзіцяці раслі здаровыя, густыя і роўныя зубы.

Нават найбяднейшыя сем'і стараліся зрабіць як найбольшы прыём. Зразумела, што ў мінулым гэтыя ўрачыстасці як у сэнсе гігіены, так і ў сэнсе эстэтыкі вельмі адрозніваліся ад сённяшніх патрабаванняў і прынцыпаў. Ежа падавалася на стол у некалькіх вялікіх місах. Кускі мяса былі вялікія і трэба было іх на стале рэзаць нажом або рваць рукамі. Найчасцей усе госці, якія сядзелі за сталом, пілі з аднае пасуды, таму паганялі адзін другога і прымушалі піць да дна і як найхутчэй.

Хрысцінныя бяседы прадстаўлялі значную цікавасць у фальклорным аспекце. Выконвалася многа песень, якія пасрэдна або непасрэдна былі адрасаваныя маці нованароджанага, яго бацьку, дзіцяці, бабцы-павітусе, куму, куме і іншым гасцям.

Шырока вядомая на Беласточчыне песня, прысвечаная матцы і дзіцяці. Нямала ў ёй прыхільных да гэтых асоб акцэнтаў:

Ой, наша (імя маці)
Нарадзіла сына,

# БЕЛАРУСКІ ФАЛЬКЛОР

Сына як дубочка,
Падобнага на мужа.
Расці наш сыночак,
Расці як дубочак,
Будзь жа ты разумны,
Каб мог палічыці
Усе ў вёсцы гумны.

У многіх песнях сутыкаемся таксама з прыхільнымі адносінамі да бацькі і сына. Прыкладам можа быць песня з вёскі Старая Луплянка.

Наш (імя бацькі) маладзец,
майстар на ўсе рукі,
Падкідае бабцы што рок
па унуку.
Хлопец як грыбочак,
як рыба здаровы,
Як зорачкі очы,
як шнурочкі бровы.

Значную фальклорную вартасць прадстаўляюць тосты, якія часта выступалі ў вершаванай форме. Вось некалькі прыкладаў такіх форм з Сакольшчыны.

Хай жыве нам сто лет
І цвіце як макаў цвет.

* * *

Расці ў шчасці, наша
дзяціна,
Красуй, як тая ў полі
каліна!

* * *

За шчасце мужыка,
за шчасце жонкі,
За шчасце гэтага і новых
патомкаў.

* * *

Патаўчэм тарэлкі, паб'ем
усе міскі,
За шчасце таго малога
з калыскі.

* * *

Чым хутчэй вып'ем гэтую
чарку,
Тым хутчэй сын ваш
пяройме гаспадарку.

У многіх хрысцінных песнях паяўляецца таксама постаць бабкі. Амаль заўсёды гэты персанаж прадстаўлены ў прыхільным асвятленні. Падкрэсліваецца не толькі яе дабрата, сардэчнасць і клапатлівасць у адносінах да нованароджанага і да парадухі, але паяўляюцца таксама матывы, прыпісваючыя бабцы магічныя, цудадзейныя ўласцівасці і здольнасці. Выступае вера ў тое, што яе словы, шэпты, пажаданні і замовы ў стане забяспечыць дзіцяці добры лёс і шчасце.

У многіх беларускіх вёсках бабка ў часе хрысціннага рытуалу была ганаровым госцем або спаўняла ролю свайго роду „рэжысёра", які акрэсліваў не толькі агульны характар, але і паасобныя дэталі ўсяго хрысціннага спектакля. Воля бабкі абавязвала ўсіх гасцей, а таксама і бацькоў дзіцяці.

**А. Баршчэўскі**



**Нашыя самадзейнікі. Спявачкі з гуртка БГКТ у горадзе Беластоку: (злева) Анна Пісанка, Антаніна Баўблей, Марыя Байгус. Фота М. Гайдука.**




# МАЎЧЫЦЬ ЗАЧАРАВАНЫ ТЭЛЕФОН

Уздоўж стаяць нязменна праз гады
Тэлеграфныя слупы, як вартавыя,
І на плячах трымаюць праўды,
А ў іх размовы розныя людскія.

А, можа, сярод тысячы размоў
Ёсць недзе твой доўгачаканы голас,
Мо скажаш мне хоць пару цёплых слоў
І буду зноў шчаслівы і вясёлы?

Рассееш, можа, сум трывалы мой,
Трывожны ўціхамірыш боль разлукі,
Ды сэрцу вернеш колішні спакой,
І жыццерадасць вернеш без прынукі?

Маўчыць зачараваны тэлефон,
Відаць, у доказ, што я адзінокі,
Напамінае заўжды толькі ён,
Што ад цябе далёка я, далёка...

**Віктар Швед**

ШЛЯХАМ ГАДОЎ

# БЕРАСЦЕЙСКА-ДАРАГІЧЫНСКАЕ КНЯСТВА

Наведаўшы Панямонне і прасачыўшы, як там паўставала Гарадзенскае княства, вернемся на Пабужжа і Панароўе, каб хоць кінуць вокам на той крывавы шлях, які давёў да паўстання Дарагічынскага княства.

Як ва ўсёй Еўропе, таксама над Нёманам, Бугам і Нарвай унутранае жыццё тагачаснага грамадства кіравалася да раздраблення вялікіх дзяржаваў на штораз меншыя княствы і землі. І кожная такая драбніца — нават самая маленькая і мізэрная — імкнулася стаць незалежнай дзяржавай. Усё спрыяла гэтаму. Па-першае, такі ўзровень гаспадаркі і тэхнікі, пры якім невялічкая грамадка людзей магла вырабіць усё, што ёй было неабходнае для жыцця і абароны. Па-другое, у разрослых княскіх родах з дня ў дзень прыбывалі натоўпы князёў і княжнаў, якія не толькі марылі, але і з усяе моцы намагаліся здабыць сваю незалежную дзяржаву, стаць самадзержцам; няхай сабе тую „дзяржаву" можна пешкі абысці навокал за адзін дзень. Па-трэцяе — насельніцтва: сяляне, рамеснікі, гандляры і іншыя — хацелі мець як мага бліжэй свайго князя, бо ён наладжваў і кіраваў абаронай, рассуджваў спрэчкі ды караў злачынцаў, уладкоўваў гаспадарчыя справы і выконваў шэраг іншых вельмі важных грамадскіх абавязкаў. Аднак пры гэтым і дадніну трэба было даваць князю часцей ды болей, княскі нагляд за падданым быў больш суровы і пільны — асабістай свабоды станавілася ўсё меней.

Такія, уласцівыя феадальнаму грамадству, імкненні асабліва яскрава выступілі на Пабужжы і Панароўі. Гэты рэгіён з развітымі сельскай гаспадаркай, рамяством, унутраным і міжнародным гандлем ды з густой сеткай моцных крэпасцяў пачаў адасабляцца ад Тураўскага княства вельмі рана. Як вядома, яшчэ ў 1001 годзе, пры панаванні ў Тураве Яраслава Святаполчыча, яго дваюрадны брат Яраслаў Яраполчыч спрабаваў з гэтага рэгіёна стварыць уласнае княства („Спакуслівы кавалак", „Ніва" ад 2.XII.1984 г.), аднак заплаціў за гэта сваім жыццём. Але грамадскія ідэі непамерна болей жывучыя ад людзей. Праўда, берасцейцам ды драгічынцам асксміну да ўласнага князя нагнаў Уладзімір Давідавіч, які пры сваім тут панаванні ў 1142-1146 гадах, абдзёр, бы ліпку, Пабужжа і Панароўе („Пана незалежнасці", „Ніва" ад 23.XII.1984 г.) і адсюль вывез аграмадныя багацці ды выгнаў натоўпы сялян і рамеснікаў у сваё Дарагабужскае княства, на паўднёвую Валынь. І пасля гэтага, мабыць, аслаблены рэгіён Пабужжа і Панароўя ўсё болей трацiў сувязь з Тураўскім княствам і не здолеў рашуча супрацьставіцца націскам на яго валынскіх князёў. Асабліва ж, калі ўнук Уладзіміра Манамаха — энергічны і захопніцкі князь Ізяслаў Мсціслававіч (каля 1100-1154) давёў каля 1150 г. да незалежнасці Валынскага княства ад улады вялікага княства кіеўскага. Нягледзячы на старанні, яму ўсё ж не ўдалося трывала запанаваць на Пабужжы і Панароўі. Калі пасля яго смерці Валынь рассыпалася на некалькі княстваў, у якіх панавалі сыны Ізяслава, то тэрыторыя Пабужжа і Панароўя абасобілася ў Берасцейска-Дарагічынскае княства, у якім княжыў у 1154-1171 гадах Яраполк Ізяславіч.

І так самая заходняя ўскраіна дрыгавіцкай зямлі, хоць і сілком адарваная ад свае маці-айчыны — Тураўскага княства.

(Працяг на стар. 4)



## АБ ВОСЕНІ, ЛЕСЕ І ПАЭЗІІ

У лесе, што за акном, дыван з пажоўклых лісцяў. Летам, калі хаджу з дзецьмі па гэтым лесе і збіраю ягады або грыбы, шчыльнай зялёнай сцяною закрывае ён прыгожыя яры і стромкія ўзгоркі.

Цяпер, калі апала лісце, відаць поўная прыгажосць „майго“ лесу.

Люблю восень. За яе доўгія вечары і сумныя раніцы. Ноч за акном прывязвае чалавека да кватэры, у якой цёплыя рабрыны радыятараў. Дзякуючы ім пакуль што — утульнасць і меланхолія. Пішу пакуль што, бо ў кожную хвіліну можа лопнуць нейкая трубка цэнтральнага ацяплення і чорт возьме ўтульнасць, а кватэра пераўтворыцца ў халодны бетонны бункер. Да абледзянення сэрца, як у найноўшым вершы Надзі Артымовіч, хіба не дойдзе.

Адносна паэзіі. Алесь Барскі наракае на невялікую папулярнасць паэзіі сярод народа. Зацікаўленне паэзіяй мізэрнае, але зацікаўленне кніжкамі вялікае. Спробуй, брат, нармальна, у кнігарні, купіць штось каштоўнае! „Пана Тадэуша“ па-беларуску купіў я ў антыкварным магазіне ў Беластоку, ды і то праз некалькі дзён пасля інфармацыі ў прэсе. Калі з'яўляецца рэцэнзія на найлепшую кнігу, у кнігарні яе ўжо даўно няма. Яшчэ, думаю, беларуская паэзія непапулярна і таму, што выразна зменшылася ў сямідзесятых гадах колькасць беларусаў, якія вывучалі беларускую мову ў школах. Потым, відаць, на змяншэнне папулярнасці паэзіі меў уплыў і крызіс. Калі база хісткая, то аб надбудове няма чаго і гаварыць. Да ажыццяўлення культуры, у шырокім сэнсе, патрэбна многа спрыяючых умоў. Каб чытаць вершы, напрыклад, Надзі Артымовіч, трэба перш чытаць вершы Я. Коласа, Я. Купалы. Даўно хачу купіць што-небудзь з класікаў і нічога не выходзіць. Маючы такі паэтычны фон, можна спрабаваць чытаць радкі:

„...гармонію жыцця змывае
вада
і я і постаць
ляцім у хворым часе“
(Н. Артымовіч)

Трэба вялікіх ведаў і жыццёвага вопыту, каб адрозніць пустаслоўе ад паэзіі, а чытач, каб не асмяшыцца неасвядомленасцю, проста маўчыць.

А так, з рукой на сэрцы, то хто ў нас чытачу падкажа, укажа, зверне ўвагу на тое, што трэба прачытаць, чаго не трэба, на што шкада часу і захаду? Адным словам, бракуе крытыкаў і крытычных рэцэнзій. Можна на гэта адказаць: паэзія сама абароніцца і зашчэпіцца ў сэрцах яе чытачоў. Так, але паэзія праз вялікае „П“ і літаратура праз вялікае „Л“. Паэзію, нават прозу, калі яе ніхто не чытае, то яна — толькі мёртвы склад літар. Там, дзе ёсць спрыяючы клімат, там наогул нараджаецца вялікая паэзія. Бо што не кажы, яна ўзначальвае кожную творчую думку.

**Міхась Махнацкі**



Дарожныя партрэты. Пісьманосец і верны сябар „Нівы“ Мікола Бабко з в. Крушыняны гм. Крынкі.
Фота М. Гайдука.

## ВЕЧАР У ТЫНЕВІЧАХ

27 лістапада ў 19 гадзін вечара развесяліў нашу публіку „Тэрцэт экзатычны“ пад кіраўніцтвам Збігнева Дзевянткоўскага. Спявае ён ужо 20 гадоў. Ездзяць яны з канцэртамі па цэлым свеце. Казалі, што не былі яшчэ толькі ў Аўстраліі, куды аднак збіраюцца паехаць. За межамі краіны спяваюць найбольш па-англійску і па-іспанску і наігралі многа грампласцінак на гэтых мовах. Па-польску маюць 11 пласцінак.

У нас яны прыгожа спявалі таксама па-руску, а нашы жанчыны Валя Леўчук і Ніна Савіцкая заспявалі ім па-беларуску і па-ўкраінску. Ім вельмі спадабаліся песні, таксама наш клуб, якім проста захапляліся.

Мы ўдзячны кіраўніку культурна-асветнай секцыі „Рух“ у Беластоку В. Петуху, які пра нашы клубы „Рух“ вельмі дбае.

Хачу яшчэ дадаць, што „тэрцэт“ заехаў да нас па дарозе з Курашава, дзе таксама выступаў.

Добра было б, каб у наступным годзе „тэрцэт“ прыехаў да нас з яшчэ цікавейшай праграмай.

**Н.С.**

## НА КАРЫСЦЬ ШКОЛЫ

Барысаўка — гэта прыгожая мясціна недалёка ад Белавежскай пушчы. Ёсць тут пачатковая школа з сямю настаўнікамі, аб працы якіх можна сказаць нямала добрага. Школа ўжо многія гады адрозніваецца добрым парадкам у кожным сэнсе гэтага слова.

У мінулыя гады дырэктарам школы быў Юрка Хмялеўскі. Ён умеў стварыць у школе добры, працавіты настаўніцкі калектыў, у якім заўсёды панавала сяброўская атмасфера.

Ад пачатку гэтага навучальнага года Ю. Хмялеўскі прыняў пасаду гміннага інспектара школы ў Нарве.

Дырэктарам школы ў Барысаўцы стала Аліна Грыгарук, вельмі энергічная жанчына. Яна адразу ўключылася ў школьнае жыццё. На першым сходзе настаўнікаў з бацькоўскім камітэтам была абмеркавана грамадская праца бацькоў у дапамозе школе. Высока была ацэнена дагэтуляшняя дзейнасць бацькоў пад кіраўніцтвам былога дырэктара пры рамонце школы. Група бацькоў разам з дырэктарам уласнаручна зразалі ў лесе закупленую драўніну, прывезлі яе на школьны пляц. З яе былі зроблены два новыя шчыты, вялікі ганак і пакладзена новая падлога ў школьных сенцах. Былы дырэктар школы аддана працаваў пры рамонце школы нават тады, калі ўжо ведаў, што адыходзіць на новае месца працы.

Школа была добра падрыхтавана да пачатку новага навучальнага года.

Аб усім гэтым паінфармавала на сходзе новы дырэктар Аліна Грыгарук. Затым яна звярнулася да бацькоў з просьбай дапамагчы яшчэ зрабіць асфальтавую дарожку паміж школьнымі будынкамі. Бацькі ахвотна падтрымалі новую прапанову.

Тэрмін быў кароткі — трэба было паспець перад першымі прымаразкамі. Каб прыспешыць працу і не марнаваць часу на пошукі будаўнічых матэрыялаў, малады гаспадар Яўген Андрэюк згадзіўся пазычыць школе 20 мяшкоў цэменту, а вучні разам з настаўнікамі загадзя падрыхтавалі сцежку для пракладкі асфальту. Таму ў вызначаны дзень бацькі адразу спраўна і хутка прыступілі да асфальтавання. Дзень працы грамадскім чынам прайшоў вельмі арганізавана і спраўна. Запланаваная дарожка была зроблена, а супольная грамадская праца была прысвечана 40-годдзю Народнай Польшчы. Вельмі аддана працавалі настаўнікі і вялікая група бацькоў. Дапамагалі таксама ўсе вучні, а асабліва стараліся старэйшыя.

Дырэкцыя школы, бацькоўскі камітэт і настаўнікі пачатковай школы ў Барысаўцы заклікаюць усіх грамадзян уключыцца ў агульнанародную справу дапамогі школе.

**Андрэй Ялоза,**
настаўнік

(Працяг са стар. 3)

# БЕРАСЦЕЙСКА-ДАРАГІЧЫНСКАЕ КНЯСТВА

патрапіла не толькі абараніцца ад зліцця з Валыннню, але і надзвычай лоўка і ўдала захаваць сваю незалежнасць.

Каму-небудзь можа паказацца дзіўным, што гаворыцца пра незалежнасць Берасцейска-Дарагічынскага княства ў той час, калі панаваў у ім чужы, валынскі князь. Каб развеяць гэтыя сумненні, прыгадайма, што бацька таго ж Яраполка — Ізяслаў Мсціслававіч быў па чарзе князем курскім, полацка-мінскім, пераяслаўскім, турава-пінскім, наўгародскім, уладзімірска-суздальскім, зноў пераяслаўскім, вялікім кіеўскім у 1146-1149 г.г., уладзімірска-валынскім, другі раз вялікім кіеўскім у 1151 г., другі раз уладзімірска-валынскім, трэці раз стаў у 1151 вялікім князем кіеўскім і на гэтым пасадзе закончыў сваё надта ж актыўнае палітычнае жыццё. Лічыўся ён князем валынскім усяго толькі таму, што яго бацька, вялікі князь кіеўскі Мсціслаў Уладзіміравіч, прызначыў яму Валынскае княства як удзельнае княства. Дадайма, што Ізяслаў Мсціславіч не быў выключэннем, такіх князёў-вандраўнікоў было ў тыя часы шмат. У жыцці яны кіраваліся правілам: дзе б ні панаваць — абы панаваць. Зрэшты, гэта не было надта ж вялікай заганай, бо нярэдка сярод іх здараліся — як бы сказаць сённяшняй мовай — таленавітыя палітычныя, вайсковыя, гаспадарчыя і культурныя дзеячы, якія шчыра, „верай і праўдай“ служылі таму княству, дзе панавалі.

Здаецца, што якраз такім князем і быў Яраполк Ізяславіч. Семнаццаць год ягонага панавання — гэта сапраўды „залатыя часы“ Берасцейска-Дарагічынскага княства. Якраз тады Пабужжа і Панароўе не толькі адрадзіліся з папярэдніх нягод, але, як паказваюць археалагічныя знаходкі, — сталі хутка і ўсебакова развівацца. У вялікія рамесніцка-гандлёвыя цэнтры разрасліся Бярэсце і Драгічын. Ранейшыя крэпасці Бельск, Бранск, Сураж, Мельнік, Кобрынь, Влодкі (каля Сакалова-Падляшскага), Дзяцелы і Клімы (каля Лосіцаў) і іншыя абраслі прыгарадамі, у якіх жылі і працавалі сяляне, рамеснікі, дробныя купцы. Гусцела па ўсім Берасцейска-Дарагічынскім княстве сетка малых крэпасцяў, якія будавала мясцовае насельніцтва на сховішчы на час небяспекі, асабліва ж ад грабежніцкіх нападаў і вываду людзей у іншыя землі. Узмацніліся часты мі старажавымі крэпасцямі рубяжы княства. На поўначы Берасцейска-Дарагічынскае княства межавала з Гарадзенскім княствам па рэках Нарве і Супраслі. На ўсходзе — ад вытокаў ракі Ясельды і да верхняга цячэння Прыпяці — яно гранічыла з узнікшым ужо тады Пінскім

Ф·А·Л·Ь·К·Л·О·Р




## СПОМІНАЙ МЭНЭ, МАМО!..

**(вясельная)**

Ох, мамонько-вішня, чы я ў тэбэ лішня?
Оддала ты, мэнэ, мамонька, дэ я жыті нэ прывыкша,
оддала ты, мэнэ, мамонька, дэ я жыті нэ прывыкша.
Хоч прывыкша нэ прывыкша, прывыкаті я мушу:
я старэнькому і маленькому догодіті я мушу,
я старэнькаму і маленькаму догодіті я мушу.
Спомінай мэнэ, мамо, з понэдіелку на второк,
а я й свою родну мамоньку шчэ на дэнь разы сорок,
а я й свою родну мамоньку шчэ на дэнь разы сорок.
Спомінай мэнэ, мамо, шчэ й добрымі словамі,
а я й свою родну мамоньку ўсюды горкімі слёзамі,
а я й свою родну мамоньку ўсюды горкімі слёзамі.
Коб я й мела крыла і ўмела ліетаті,
прыліетела б я й додомоньку, села б у садіку коваті,
прыліетела б я й додомоньку, села б у садіку коваті.
Коб я й мела крыла і соколовы очы,
прыліетела б я й додомоньку хоч і тэмноі ночы,
прыліетела б я й додомоньку хоч і тэмноі ночы.

**Ад Уладзіміра Ваўранюка, 1923 года нараджэння, і яго сястры Ніны Ляўчук, 1935 года нараджэння, вёска Тыневічы Вялікія, запісаў 7 лістапада 1984 г. М. Гайдук, мелодыю расшыфраваў Я. Бондар.**

# МАЯ ВЁСКА

Мая вёска — Відава, што пад Бельскам. 1055 гектараў сельскагаспадарчых угоддзяў, у тым ліку 748 гектараў ворнай зямлі. У вёсцы 515 жыхараў, у тым ліку: да 16 гадоў — 109, ад 16 да 35 — 128. У Відаве 112 гаспадарак. Гаспадароў да 35 год —1, ад 35 да 50 год — 32, звыш 60 год — 12.

Дарогі да вёскі добрыя. Ёсць спажывецкая крама і клуб „Руху“.

У вясковай радзе сем асоб. Перад сялянскім самакіраваннем вяскоўцы паставілі наступныя заданні: пабудаваць у грамадскім пачыне аўтобусны круг, прыйсці з дапамогай хворым і старым жыхарам вёскі, дбаць пра эстэтыку вёскі, сельскагаспадарчую прадукцыю і культуру.

**Андрэй Гаўрылюк**

## БЕЛАРУСКІЯ ПРЫКАЗКІ

Абора цячэ — гаспадыня бліны пячэ, а калі гумно цячэ — гаспадар з хаты ўцячэ.

Горка часам праца, ды хлеб з яе салодкі.

Добры стралец — благі гаспадар.

Жонка дзяржыць хату за тры вуглы, а мужык за чацверты.

Кожныя граблі да сябе грабуць.

Малыя дзеці не даюць спаць, а вялікія дзеці не даюць жыць.



**Формачка для аздобаў з дарагіх металаў (срэбра або золата). XI-XII стагоддзі. Гарадзішча ў Гацьках каля Бельска Падляшскага. Фота з архіва Акруговага музея ў Беластоку (Да артыкула ўнізе).**



**Бронзавая пражка да пояса. XI-XII ст. ст. Гарадзішча ў Гацьках каля Бельска Падляшскага. Фота з архіва Акруговага музея ў Беластоку. (Да артыкула ўнізе).**




# СПРЭЧКІ

У суседа гоман у хаце. Можа сварка? А дзе, скажы, яе няма! Маладыя нядаўна пажаніліся. Відаць, дацiраюцца. Загляну да іх. Калі там дрэнна, памагу; калі патрабуюць парады, параю.

— Добры вечар! Што так галасно?

— Ат, нічога. Стары ўсведамляе.

І тэма, аказалася, у іх не новая: калі жылося лепш, цяпер ці даўней. А сыр-бор загарэўся з-за цэнаў.

— Усё ўгору пнуцца, — усміхаецца пераможна стары. — І ўсё дзеля нашага дабра. І падаткі ўзрастаюць дзеля развіцця сельскай гаспадаркі. А мінеральныя ўгнаенні, а цэны машын? Скачуць безупынку. Таксама дзеля руху наперад. Чым пераканаеце мяне вы, эканамісты, разумнікі?! Я адно ведаю, старая Польшча існавала дваццаць год і цэны былі заўсёды аднолькавыя.

— Так, так, — кажу, — вам, старым, заўсёды старая і старая. А новая? Скажыце па шчырасці, колькі за старой было ровараў на вёсцы? Добра, калі быў згорблены конік. А ці будавалася так Польшча даўней? Вазьміце толькі Гайнаўку, хутка прыгарадам будзем. А на чым вы спалі даўней? На запечку. І кажухом накрываліся. А цяпер у вас версалькі, казэткі, тапчаны і ліха ведае што. А мэбля даўнейшая? Дзедаўскі стол, лаўка пад сцяною і столак. А цяпер? Цэлая пушча ў хаце, і яшчэ малавата. А ўзяць пасцель? Даўней кароль у такой спаў, як вы, суседзе, цяпер. А елі што? Белая соль была толькі на свята. А цяпер двух парсюкоў у год не хапае, нават пра пасты пазабывалі. А хто ў той вашай старой самаход у вёсцы бачыў? А цяпер сын у Гайнаўку вязе і барада не скача. Чаму? Таму, што кепская Польшча пабудавала добрыя дарогі і дазволіла прыдбаць аўтамашыны. І то лепшыя, каб больш дзверцаў і не трасло завельмі. І ўсяго нам мала. А яно ж дарма не прыходзіць. Працаваць трэба, шанаваць гаспадарку, каб давала большы даход, каб было і сабе і краіне. Машыны даглядаць, каб служылі не адзін год. Тады і цэны пойдуць уніз.

Стары не здаваўся.

— Больш выцягнеш, будзе з чаго абрэзваць. Гатунак зніжаць, цану. І шыш астанецца.

— Астанецца, астанецца.

— Тое, што ў хату ўцягнеш. І то цяжка, бо разувацца трэба.

Мы разрагаталіся. Бо ў хаце дываны, выкладзіны. Багацце.

Паказваючы вачыма на ўсё гэта, кажу:

— Бедната ўцякла ад вас. Заможнасць скача ўверх.

Стары знерваваўся. Яго праўда віляе.

— Паскача яшчэ ваша заможнасць. І вы з ёю. Я ўжо наскакаўся. Яшчэ толькі — нагамі наперад.

Стары грымнуў дзвярыма і пайшоў шукаць праўды да такіх, як і сам.

**Г. Мароз**

княствам. На поўдні — ад вытокаў Прыпяці і пад сённяшні Парчэў — яго суседам было Уладзімірскае княства. На захадзе — з-пад Парчэва праз Вогін — Мендзыжэч — Морды — Мукаботы — Венграў — Нур і да Візны ішла доўгая граніца з Мазовіяй. Недзе паміж Візцай і Гонендзам яно сутыкалася з Яцвягіяй. Няма сумнення, што гэтыя граніцы не сталі рубяжамі, якіх нельга было пераадолець. Хутчэй за ўсё яны абазначалі межы абсягу ўлады берасцейска-дарагічынскага князя, а рух праз іх быў свабодны.

Доказам гэтаму змешанае насельніцтва, якое жыло ў княстве. Вядома, аснову і рашаючую большасць яго складалі дрыгавічы, але заходнюю частку насяляла значная колькасць мазаўшан, на поўначы траплялiся сялібы прусаў і яцвягаў, а на паўднёвую ўскраіну ўсё мацнейшым струменем наплывалі валыняне. Суседзяў прываблівала спакойнае і заможнае жыццё ў Берасцейска-Дарагічынскім княстве.

З часоў княжання Яраполка Ізяславіча да нас не дайшлі весткі пра нашэсці суседзяў на Берасцейска-Дарагічынскае княства ці ўнутраныя непаладкі ў ім. Гэта быў сапраўды блаславёны час мірнага жыцця. Княства багацела працай сялян, рамеснікаў, купцоў. Мабыць, якраз тады апынуліся ў ім тыя рэчы з розных бакоў Славяншчыны, Еўропы, Сярэдняй Азіі, рэшткі якіх археолагі знаходзяць цяпер на Пабужжы і Панароўі. Не толькі іншаземныя купцы ахвотна прыбывалі сюды, берасцяне і дарагічане таксама траплялі ў адлеглыя краіны і гарады Заходняй і Усходняй Еўропы, Прыбалтыкі і Прычарнамор'я. Да таго часу трэба аднесці пабудову ў Дарагічыне велічнага мураванага храма, які потым або загінуў, падмыты Бугам, або ўсё яшчэ рэшткі яго не знойдзены археолагамі. Пра яго неабвяргальна сведчаць знойдзеныя ў Дарагічыне паліваныя каляровыя пліткі, якімі ў тыя часы высцілалі падлогу і абліцоўвалі сцены самых выдатных цэркваў ва Усходняй Славяншчыне, у тым ліку ў суседняй Гародні. А знойдзеныя вялікія складаныя нацельныя крыжы, г.зв. энкалпіёны, з грэчаскімі літарамі на іх, сведчаць пра тое, што ў Дарагічыне прабывала вышэйшае духавенства, якое мела сувязі, відаць, нават з Візантыяй. Тут таксама жыла значная колькасць людзей заможных, тагачаснай арыстакратыі. Пасля яе засталіся ў зямлі каштоўныя ўпрыгожанні, рэшткі флаконікаў па надзвычай дарагіх парфумах з Усходу, паліваныя эмаліяй цацкі і інш.

Аднак гэтае стваральнае 17-годдзе панавання Яраполка Ізяславіча закончылася разам з яго смерцю. Пасля амаль адразу ўспыхнула кровапралітнае, зніштажальнае змаганне суседніх князёў з яго нашчадкамі за Берасцейска-Дарагічынскае княства.

Але пра гэта пазней. Цяпер пара нам заглянуць у Гарадзенскае княства.

**Мікола Гайдук**

(Працяг са стар. 2)

## НА МЯЖЫ

вечарах аказваецца наогул даволі мізэрным. І думаецца мне, што, мабыць, у вельмі нямногіх нашых выпускнікоў і студэнтаў знаходзяцца камплекты зборнікаў „белавежцаў", затое ў многіх няма ніводнай іх кніжкі. Хто ў гэтым вінаваты — студэнты ці, можа, мы, выкладчыкі?

Можа хтосьці сказаць: калі нават студэнты беларускай філалогіі не цікавяцца „белавежцы", вашай творчасцю, дык навошта вы ўвогуле пішаце?

Адкажу шчыра — і думаю, што сказанае мною адносіцца да многіх „белавежцаў". Не раз чалавеку прыходзіць у галаву думка аб бессэнсоўнасці яго творчасці. Вельмі часта думаеш аб тым, што, быць можа, час і энергію, якія аддам паэзіі і прозе, варта было б прызначыць на нейкія іншыя, болей канструктыўныя заняткі. З другога аднак боку, даходзяць з душы шэпты, якія гавораць аб тым, што якраз мастацкае СЛОВА гэта адзінае лякарства на чалавечую абыякавасць і мярцвеччыну. Вядома, што не ўсе станы духоўнай хваробы вылячальныя. Калі, аднак, з тысячы адзін чалавек, якому пападзе ў рукі зборнік „белавежца", узрушыцца, расчуліцца, задумаецца і пад яго ўплывам пачне мысліць па-другому або і сам працягне руку да пяра і паперы, каб выпрабаваць свае літаратурныя магчымасці, дык пісаць нам, „белавежцы", не толькі варта, але і трэба.

А папулярнасць? Бог з ёю і ну яе к чорту!

Алесь Барскі




### КІМ БУДУЦЬ

Няма дзяцей, кажуць: гора,
Дзеці ёсць — горшая бяда.
Вырастуць — пайшлі, няма.
Першы кажа: — Родны тата,
Нашто мне тут працаваць,
Пайду ў армію служыці
І дзяржаву ахраняць.
Як сказаў, так зрабіў,
У арміі астаўся,
Прафесію здабыў,
Механікам стаўся.
Другі кажа: — Міла маці,
Тут не буду працаваць,
Я пайду са свае хаты
Унукаў Кваса гадаваць.
Мілыя мае, прызнацца,
Шчыру праўду вам сказаць,
Кіслы квас грызе за вочы,
Цяжка сполку з ім звязаць.
Трэці кажа: — Мой ты бацька,
Нашто ж я вучыўся,
Не зямлю мне абрабляць
І ўсё жыццё мучыцца.
Як сказаў, так зрабіў,
У Беласток памчаўся,
Ужо кватэру там дастаў
І абсталяваўся.
Дачка кажа: — Міла маці,
Што тут мне рабіці,
Пайду ў горад Міхалова
Ткаці ганавіцы.
Як сказала, так зрабіла.
Бацькі самі засталіся,
Нейк яны ўжо дажывуць,
Як не змогуць працаваці,
То ў дом старасці пайдуць.
І каму ўсё астанецца,
Каму сеяў і араў?
— Можа хтось яшчэ вярнецца, —
Бацька маці так казаў.

М. Лук'янюк

## БІБЛІЯГРАФІЧНЫ КУТОЧАК

1. Meyendorff John: Teologia bizantyjska. Historia i doktryna. Przełożył Jerzy Prokopiuk. Instytut Wydawniczy PAX, Warszawa 1984 ss. 312 c. 280 zł.

Аўтар кніжкі з'яўляецца адным з перадавых сучасных праваслаўных тэолагаў. У гэтай кніжцы ён дае апісанне катэгорый тэалагічных думак, фармаваных у рамках хрысціянскай візантыйскай цывілізацыі. яе філасофіі жыцця, літургіі і мастацтва ў сучаснай усходняй артадоксіі.

Істотнай з'явай гэтай тэалогіі з'яўляецца яе інтуіцыйнасць. А галоўнай тэмай — пераканание, што прырода чалавека — гэта не толькі яго сутнасць, але і дынамічная рэчаіснасць у самым сваім існаванні, акрэсленая яе сувяззю з Богам. Гэтая кніжка прабуе прадставіць галоўныя гістарычныя тэндэнцыі візантыйскай тэалогіі, заўсёды ўзнімаючы яе падставовую тэму і ў другой сваёй частцы стараючыся паказаць у больш сістэматычнай форме. што творы візантыйскай тэалагічнай думкі можна таксама ўявіць сабе як сінтэз.

У сэнсе культуры і цывілізацыі Візантыя мёртвая ўжо даўно. Аднак якасць яе ўздзеяння на гістарычнае развіццё грамадства ўвесь час застаецца нявырашанай праблемай. Безупыннае зацікаўленне, якім карыстаецца візантыйскае мастацтва, а таксама факт існавання ўсходняга хрысціянства сярод незвычайна драматычных грамадскіх перамен — гэта найлепшыя доказы таго, што Візантыя сапраўды адкрыла падставовыя праўды, якія датычаць прыроды чалавека і яго адносін да Бога.

2. Moszyński Leszek: Wstęp do filologii słowiańskiej. Państwowe Wydawnictwo Naukowe, Warszawa 1984 ss. 344 c. 180 zł.

Славянская філалогія ў шырокім разуменні з'яўляецца навукай аб мове і літаратуры ўсіх славян. Мэтай гэтай кніжкі з'яўляецца разбуджэнне зацікаўлення да славянскай філалогіі, прадстаўленне пачаткаў мовы і пісьменнасці славян, паказанне ў магчыма даступнай форме тых усіх праблем, веданне якіх з'яўляецца асновай разумення гістарычнай граматыкі кожнай славянскай мовы і параўнаўчай граматыкі славянскіх моваў. Кніжка падзелена на дзве часткі, пяць раздзелаў і 293 параграфы. Кожны параграф мае ўласны загаловак, які з'яўляецца адначасова назвай чарговай навуковай праблемы. Гэтае выданне адрасуецца галоўным чынам да студэнтаў усіх славістычных напрамкаў, што дае магчымасць павысіць узровень славістычных ведаў, а пасрэдна і ведаў аб багатай сям'і славянскіх моваў

Р. С.

# СПАДАРОЖНІКІ

Саломка, лаза, лыка, бяроста. Якую безліч рэчаў штодзённага ўжытку патрапілі зрабіць з іх нашыя прадзеды, дзяды, бацькі! З імі нашыя продкі знаёміліся, уваходзячы ў жыццё, і развіталіся з імі толькі сыходзячы са свету. У лазовай калысцы ім сніліся першыя чароўныя сны, першым абуткам былі лазовыя лапці, сейбіт з набожнасцю зачэрпваў першую жменю зерня з „пашытай" ім жа з лазы ды саломкі зручнай сявенькі, гаспадар першы свой умалот ссыпаў у пукатыя „сыпанкі", гаспадыня клала ўсё ёю ж натканае ды нагафтаванае ў такія ж „козубы", а калі трэба было падацца з роднай хаты, то лусту хлеба ды кавалачак саланіны бралі з сабою ў плеценую з бярosты торбу.



З выстаўкі „Народнае мастацтва Беласточчыны" ў Беластоцкім акруговым музеі, ліпень-жнівень 1981 г. Фота М. Гайдука.

ПАРТЫЗАНСКІЯ СЦЕЖКІ

## КАЛІ ТЫ БАЦЬКА...

— Прыйшло вызваленне і нас расфарміравалі па раёнах, каб устанаўляць савецкую ўладу, лячыць ваенныя раны, арганізоўваць пастаўкі для фронту.

Так Раман Мардань закончыў расказ аб сваім звыш двухгадовым партызанскім бадзянні па лесе, аб штодзённай гульні ў хованкі з назойлівай кастухай.

З перспектывы амаль паўстагоддзя выглядае ўсё гэта проста і звычайна, як у прыгожай легендзе, якая на дабавак канчаецца шчасліва.

Тады, аднак, кожны крок да вызвалення значыўся крывёю і ахвярамі жыцця.

23 чэрвеня 1944 года пачалося стратэгічна-вызваленчае наступленне, аграмадная ваенная аперацыя, вядомая пад назвай „Баграціён". Згодна з планам гэтай аперацыі, трэба было аднachасова прарваць абарону ворага каля Віцебска, Оршы, Магілёва і Бабруйска, а затым групоўкі армій трох Беларускіх і двух Прыбалтыйскіх франтоў мелі накіраваць свае ўдары на Вільню, Мінск і Баранавічы.

Вораг спадзяваўся гэтакай магутнай ваеннай аперацыі. Толькі гітлераўскае камандаванне не ведала, дзе і калі яна распачнецца. Гітлер спецыяльным загадам аб'явіў, што гарады: Віцебск, Орша, Магілёў, Бабруйск, Барысаў і Мінск лічацца гарадамі-крэпасцямі, якія трэба бараніць і ўтрымоўваць да апошняга салдата, нават ва ўмовах поўнага акружэння, — гаварылася ў гэтым загадзе Гітлера. Толькі асабіста ён на просьбу групы армій мог даць дазвол, каб яго войскі пакінулі гэтыя раёны. Савецкай Арміі давялося разбіць 63 варожыя дывізіі, разам больш за 1 мільён 200 тысяч салдат, якіх падтрымлівалі 1300 самалётаў і шмат іншай ваеннай тэхнікі.

Партызанская брыгада „Савецкая Беларусь" разам з цэлым Брэсцкім партызанскім злучэннем нечакана апынулася ў цэнтры баявых франтавых дзеянняў. Камандзір гэтага злучэння, **Сяргей Іванавіч Сікорскі** адзначае:

*„Брыгада імя Гуляева разам з батальёнам 138-га стралковага палка 48-ай гвардыйскай стралковай дывізіі авалодала раённым цэнтрам Тэлеханы. Пры гэтым было забітых да 250 гітлераўцаў і 35 чалавек узята ў палон. Праследваючы праціўніка, нашыя войскі і партызаны разграмілі варожыя гарнізоны ў вёсках Азарычы і Краглявічы.*

*Брыгада „Савецкая Беларусь" раптоўным і неспадзяваным ударам захапіла мост цераз раку Яселду на поўнач ад вёскі Здзітава.*

*Брыгада імя Свярдлова, рухаючыся насустрач часцям 61-ай арміі, з боем авалодала мястэчкам Моталь і вёскай Бяздзеж.*

*Брыгада імя Чапаева выбіла гітлераўцаў з дзвюх вёсак Кобрынскага раёна і прыкрыла шасейную дарогу Брэст-Масква. Пры гэтым было ліквідавана каля 300 эсэсаўцаў. На працягу сутак партызаны ў супрацоўніцтве з часцямі Чырвонай Арміі вялі бой па ліквідацыі акружа-*

# Зорка

## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ


## ЗАЛАТЫ ПТАХ

### БЕЛАРУСКАЯ НАРОДНАЯ КАЗКА

ПАЧАТАК У ПАПЯРЭДНІМ НУМАРЫ.

Пайшоў Іван у зачараваны палац. Мінуў браму з сабакамі, увайшоў у першы пакой, у другі. Бачыць — розных майстроў тут безліч: і сталяры, і слесары, і муляры. А каля іх варта з шаблямі ды стрэльбамі. І дзе хто што рабіў, там і заснуў. Падзівіўся Іван на іх ды пайшоў далей, у трэці пакой.

Вось перад ім і залатая клетка вісіць, а ў ёй залаты птах сядзіць. Як убачыў Іван птаха-злодзея, дык і на перасцярогу забыўся. Схапіў клетку, сарваў са сцяны. І тут такі звон пайшоў... Напалохаўся Іван ды назад. У другім пакоі зачапіўся знячэўку за залаты гадзіннік. Той давай спяваць, на ўсе лады выцінаць. Пабег Іван далей. Ускочыў у першы пакой, схапіў меч — вельмі ж ён прыгожы быў! А меч як забразджыць... Усё ў зачараваным палацы абудзілася. Усе кінуліся за Іванам. Ды Іван не драмаў — як страла праляцеў каля сабак і выскачыў з палаца.

Бачыць ваўчыха — бяда: Іван імчыцца на ўвесь дух, а за ім цэлая пагоня. Падскочыла да яго ваўчыха.

— Сядай, — кажа, — на мяне хутчэй!

Сеў Іван, а ваўчыха — у мора і паплыла!

Пераплыў Іван мора і просіць ваўчыху:

— Скажы, дзе мае браты. Я не магу без іх дадому вярнуцца.

— Эх, — уздыхнула ваўчыха. — не шукай ты лепш братоў, бо яны цябе са свету звядуць.

— Не звядуць, — адказвае Іван.

— Ну, калі ты такі смелы, то ідзі на каралеўскі двор, — там твае браты ў астрозе сядзяць. Толькі глядзі, сцеражыся іх... Яны табе дабра не жадаюць...

Развітаўся Іван з ваўчыхай, падзякаваў ёй і падаўся на каралеўскі двор.

Прыйшоў да караля, прывітаўся.

— Што скажаш? — пытаецца кароль.

— Выпусці маіх братоў, — кажа Іван. — Навошта ты іх у астрозе трымаеш?

Кароль кажа:

— Не выпушчу. Твае браты хацелі лепшых маіх коней пакрасці.

Іван і так і сяк просіць — не згаджаецца кароль.

— Дык я іх выкуплю.

— Чым жа ты выкупіш?

Дастаў Іван з-пад світкі залаты меч:

— Вось табе выкуп.

Паглядзеў кароль на меч — спадабаўся: такога ў яго няма.

— Ну, добра, — згадзіўся кароль, — забірай сваіх братоў. Толькі больш не пускай іх у маё каралеўства.

Забраў Іван братоў, расказаў ім, як дастаў залатога птаха, і пайшлі ўсе разам дахаты.

Прыйшлі яны ў цёмны лес. Браты забілі Івана, а самі забралі залатога птаха ды пабеглі дамоў.

Шмат часу мінула ці не, здарылася трапіць у той лес ваўчысе. Чуе яна — дзесьці чалавек блізка. Пабегла ў той бок і ўбачыла забітага Івана.

— Вось, — бядуе ваўчыха, — як ты мяне не паслухаў! А я ж табе казала, я ж цябе навучала: асцерагайся ліхіх братоў!

Пабегла ваўчыха на высокую гару, дастала пляшачку жывой вады. Вярнулася і ажывіла Івана. Устаў ён, пацягнуўся:

— Ох, як жа я доўга спаў!

— Спаць бы табе тут век-векам, каб не я, — кажа ваўчыха

— А дзе ж мае браты? — пытаецца Іван.

— Дома. Спяшайся хутчэй і ты дадому. Там твой бацька з радасці, што браты вярнуліся і залатога птаха прынеслі, бяседу ладзіць. З'язджаюцца да яго нават паны і каралі на дзіва глядзець. Але бацька цяпер цябе не пазнае, бо ты змяніўся ад жывой вады. Дык ты, як прыйдзеш дахаты, папрасіся да кухара за памочніка. А як зварыцца страва, то ўпусці ў яе па кропельцы жывой вады.

Навучыла ваўчыха Івана, што яму рабіць, і пабегла.

Вярнуўся Іван дадому. А там і праўда госці збіраюцца. Кухар аж разрываецца адзін — шмат розных страў трэба наварыць ды напячы для гасцей. Падыйшоў Іван да кухара:

(Працяг на стар. 10)



На здымку — Крыся і Пеця Мушкатэлі з Вулькі Нурэцкай на фоне прыгожай саматканай посцілкі. Гэты здымак паходзіць з калекцыі Яанвы Здраеўскай, вучаніцы шостага класа школы ў Дашах. Яася вельмі любіць збіраць усё, што датычыць народнай творчасці. Даслала фатаграфію Марыя Пень.

## ДЛЯ САМЫХ МАЛЕНЬКІХ

Г. Яфрэмаў

### ЧАРОЎНЫЯ ЛІТАРЫ

— А я ўмею маляваць літары Г і О, — пахвалілася Аня.

Борка адарваўся ад тоўстай кнігі і ўсміхнуўся:

— Малюй, паглядзім, што ў цябе выйдзе.

Аня высунула язык і вывела літары. Хоць трошкі і крывыя, але нават падобныя да сапраўдных.

— Літара О і літара Г, — прачытала яна.

— Ты глядзі, правільна напісала! — здзівіўся Борка. — Ну, давай аловак.

— Навошта? — спытала Аня.

— А я табе штучку пакажу. Глядзі: пішам літару Г.

— Г, — паўтарыла Аня.

— А цяпер дадаем палачку — што выйшла?

— Т, — здзівілася Аня.

Борка зноў напісаў літару Г.

— А цяпер — палачку з другога боку.

— П! — уцешылася Аня.

— А цяпер?

— А цяпер — Е!.. А цяпер — Б! Во як!

Борка напісаў літару Р і пеперарабіў яе на Ф, а потым — на В.

Аня паглядзела на старэйшага брата з пашанай.

— Ты што, чараўнік? — спытала яна.

Борка засмяяўся.

— Гэта не я, гэта літары чароўныя. Хочаш сама паспрабуй. Ён напісаў новую літару.

— Гэта якая літара?

— Літара Л, — сказала Аня.

— Правільна. А цяпер мы зменім яе ў якую?

— Мы зменім яе, — таямнічым шэптам паўтарыла Аня і задумалася. — У што мы яе заменім? Ой, ведаю. Трэба дапісаць палачку і выйдзе літарка...

— Выйдзе літарка... — працягваў Борка. — Якая?

— Гэта ж я пытаюся ў цябе? — разззлавалася Аня. — Ты адгадай, якая?

А вы, дзеці, ведаеце, якая будзе літарка?

Г. Шутэнка

### УНУК

Малаточкам майстар-ўнук
Б'е па крэсле —
грук ды грук!
Просіць бабка:
— Ой, унучак,
Перастань, не бі так гучна:
Галава мая баліць,
У вушах маіх звініць!..

Кінуў майстар малаток,
На калені бабцы — скок!
— Дай паслухаць, —
Стаў прасіць, —
Як ў вушах тваіх звініць.

З рускай мовы пераклаў Г. Дзмітрыеў.

## Малюнкі школьнікаў



**Малявала Ася Целушэцкая, вучаніца восьмага класа з Беластока.**

**(Працяг са стар. 9)**

### ЗАЛАТЫ ПТАХ

— Давай я табе памагаць буду.

— Добра, — згадзіўся кухар, — памагай, бо мне аднаму не ўправіцца.

Узяўся Іван памагаць. А потым і кажа кухару:

— Ты, дзядзька, стары, змарыўся, адпачні, а я ўжо сам усё скончу.

Бачыць кухар, што памочнік яго добра стараецца, і лёг адпачыць.

Згатаваў Іван абед, уліў у кожную страву па кроплі жывой вады і пабудзіў кухара. Той панёс абед да сталоў.

Бяседнікі ядуць і стравы хваляць — вельмі ж усё смачна згатавана!

Пасля абеду кліча гаспадар кухара, дае яму гасцінцы і дзякуе за смачныя стравы. Кухар кажа:

— Гэта ж тут адзін хлапец у мяне за памочніка быў, дык ён і наварыў такіх смачных страў. Сам я гэтак гатаваць не ўмею.

Гаспадар кажа:

— Дык пакліч яго да мяне, трэба ж і яму падзякаваць.

Паклікалі Івана. Гаспадар пытаецца:

— Дзе ты навучыўся такія смачныя стравы варыць?

— Бяда ўсяму навучыць, — адказвае Іван.

— Якая ж у цябе, хлопча, бяда?

Іван і расказаў пра тое, як ён залатога птаха дастаў, як брату у караля выкупіў і як яны яго забілі, а добрая ваўчыха ажывіла...

Стаяць браты моўчкі, белыя як палатно, а бацька пытаецца:

— Дык гэта ж ты, мусіць, мой меншы сын Іван?

— Але, — кажа Іван. — Я птаха дастаў і слова стрымаў, а яны — браты мае разумныя — ліхадзеі!

Выгнаў бацька старэйшых сыноў з дому, а Іван і цяпер жыве.

**Паўлюк Прануза**

## СНЕГ

Ні сцяжынкі, ні дарогі.
Светла, нібы ад бяроз.
І здаецца: самі ногі
Нас выносяць на мароз.

Едзем дружнаю сям'ёю,
Пракладаючы лыжню.
Пахне снег у лесе хвояй,
Слухаем мы цішыню.

Прыпыніліся на ўзгорку
Пад шатром густым ялін.
Скачуць жвавыя вавёркі
Між заснежаных галін.

А іголкі мітусяцца,
Ціха сыплюцца на снег.
Вунь сляды. Напэўна, зайца.
Рана шарачок прабег.

Шэпча лес прыхільным вецщем
Ад імя сівой зімы:
— Не забудзьце птушак, дзеці!
— Не забудзем! — кажам мы.

**Леапольд Танкевіч**

## ЗІМОЙ

Зноў навеяла,
зноў насыпала
снегу белага
за акном.
За аселіцай
роўна сцелецца,
нат прагалінкі
не відно.

А як толькі ноч
зноў абудзіць дзень,
ад парога след
паўсюдзе.
Дзе на горцы снег
замяніўся ў смех,
нібы фокуснік,
чарадзей.

Пад нагой скрыпіць
за каўнер ляціць,
смеху-гоману
не суняць.
Радасць белая,
шчасцем спелая,
запалоніла
да цямна.

## Пазнаёмімся

СССР, 346514, Ростовская обл., г. Шахты, ул. 20 Партсъезда, 36. Нурулиной Эльвире. Дзяўчынка вучыцца ў чацвертым класе.

* * *

СССР, 344098, г. Ростов-на-Дону, ул. Добровольского, 34/1, кв. 68. Чемоданов Саша.

* * *

СССР, 340036, г. Донецк-36, ул. Курсантов, 11, кв. 4. Курилич Лиле. Дзяўчынка вучыцца ў чацвертым класе.

* * *

СССР, 187500, Ленинградская обл., г. Тихвин, ул. Партизанская, 2а, кв. 4. Лисянской Любе.

* * *

СССР, 344032, г. Ростов-на-Дону, ул. Казахская, 63, кв. 3. Ермакова Таня. Дзяўчынка вучыцца ў пятым класе. Хоча перапісвацца з аднагодкамі, якія маюць у сябе сабак. Сабаку Тані завуць Мілорд.

* * *

СССР, Ростовская обл., г. Шахты, ул. Парковая, 56, кв. 27. Кучмасовой Оксане. Дзяўчынка вучыцца ў восьмым класе.

* * *

СССР, 346515, Ростовская обл., г. Шахты-15, ул. Шоссейная, 178. Сечкарёва Елена. 12 год.

* * *

СССР, 346511, Ростовская обл. г. Шахты-11, ул. Обухова, 42. Кошмановой Лене. Дзяўчынка вучыцца ў сёмым класе.

* * *

СССР, 308033, г. Белгород, ул. Губкина, 24/3, кв. 13. Ташковой Светлане. Дзяўчынка вучыцца ў чацвертым класе.

* * *

СССР, 346555, Ростовская обл., г. Шахты, п. Майский, ул. Горького, 29а, кв. 6. Кожановой Юлии. Дзяўчынка вучыцца ў сёмым класе.

* * *

СССР, 346507, Ростовская обл., г. Шахты-7, пер. Мельничный, 54. Гончаровой Свете. Дзяўчынка вучыцца ў чацвертым класе.

* * *

СССР, 344065, г. Ростов-на-Дону, ул. Киргизская, 9/1, кв. 56. Сиваковой Тане. Дзяўчынка вучыцца ў пятым класе.



## Пішуць школьнікі

### ДАРАГАЯ „ЗОРКА"!

*Мы хочам расказаць Табе пра нашыя справы.*

*Вучымся мы ў адным класным пакоі — чацвёрты і пяты класы разам. У чацвёртым класе толькі восем вучняў, а ў пятым — трынаццаць. Больш пяцёрак атрымоўваюць малодшыя, але і пяцікласнікі таксама добра вучацца.*

*У нас паяўляецца шмат супольных цікавых думак. На перапынках мы разам адпачываем і гуляем у розныя гульні.*

*У апошні час на школьным падворку мы наладзілі каток. Там арганізуем спаборніцтвы, напрыклад, такія:*

*1) хто далей паедзе без падпоркі,*

*2) хто лепш праедзе пад расцягнутай нізка стужкай,*

*3) едучы, трэба пераадолець перашкоду — у каго гэта найлепш выйдзе і іншыя.*

*Мы штораз прыдумваем усё новыя гульні. Настаўнікі добра нас разумеюць і часта разам з намі ўдзельнічаюць у спаборніцтвах.*

*Аднойчы восенню мы хадзілі на экскурсію ў лес. Там назіралі за прыкметамі восені, слухалі музыку лесу і з сабою прынеслі экспанаты — багацце лесу. У класе мы зрабілі выстаўку, якая і сёння яшчэ прыгадвае нам цудоўную восень.*

*А цяпер мы рыхтуемся да навагодняй ёлкі.*

*Мы хочам перадаць Табе, „Зорачка", і ўсім сябрам і сяброўкам навагоднія віншаванні. Жадаем усім здароўя, шчасця і адных пяцёрак у новым, 1985 годзе.*

**Вучні IV і V класаў са школы ў Ласінцы.**

### ЗДРАВСТВУЙ, ГАЗЕТА „ЗОРКА"!

*Пишет Тебе русская школьница Наташа. Я хотела найти себе друга из вашей страны. И я тогда написала в газету „Зорка". Мне пришло более 20 писем в один день.*

*Я хочу сказать большое спасибо тем ребятам, которые отозвались на моё письмо. Это Назарко Дорота, Эля Сидорук, Адам Цыванюк, Анэта Валендзюк, Ирина Кусачук, Аня Станько и многие другие ребята Спасибо вам, друзья.*

*Если еще кто-нибудь пожелает со мной переписываться, пишите по адресу: СССР, 346516, Ростовская обл, г. Шахты, ул. Семашко, 37. Алексеевой Наташе.*

## А-Д-Г-А-Д-А-Н-К-А





**Знайдзі на гэтых малюнках дзевяць адрозненняў. Маляваў Веслаў Сіверскі.**



Адрас рэдакцыі: „Зорка", 15-950 Białystok ul Wesoło...

# КВЕТКІ ЖОНЦЫ...

Першай у аддзеле заўважыла эканаміст Зоська:

— Сідар Лявонавіч, якія ў вас модныя туфлі і гальштук — заглядзенне! Імпартныя, напэўна, так?

Потым сыпанула кампліментамі Ганна Пятроўна з планавага, з ёю — Марыя Гаўрылаўна з аддзела кадраў:

— Ах, як прыгожа! Як вам да твару!..

Сідар Лявонавіч пачырванеў, штосьці прамармытаў у адказ, а застаўшыся адзін, заспяшаўся да люстэрка: „Як гэта я не звяртаў увагі?! Вядома ж, усё спяшаешся, усё на хаду, бягом...“

Прайшоў праз кабінет і задумліва доўга глядзеў у акно, думаў, разважаў сам з сабою: „Эх, справы! Пражылі з Домнаю, жонкаю, ужо шмат год, а ўсё чамусьці не заўважаў яе ўвагі. Праца, сходы, нарады, пасяджэнні... Няма калі добрага слова сказаць ёй. А яна, бач, купіла, моўчкі паклала, чакала знаку ўдзячнасці!“

Пасля работы купіў Сідар Лявонавіч букет кветак, прыхапіў пачак дарагіх цыгарэт для госця — жончынага брата Паўла.

...Дзверы на званок яго адчыніў Павел.

— Нарэшце прыйшоў! Прыйшоў у маіх туфлях, гальштуку, а я вымушаны сядзець у хаце і чакаць.

— На, пастаў!

— Што пастаў?

— Кветкі, кажу, у вазу пастаў, — сказаў Сідар Лявонавіч, зморана апускаючыся ў крэсла?

— Каму кветкі?

— Ды дзень нараджэння заўтра ў дачкі Соні... — прыдумаў адказ.

**М. Застольскі**

# НІЎКА

З чаго смяюцца суседзі.

ВЕТЕРИНАР

Без слоў.

## СКАЗАЎ, ШТО ДУМАЎ

Правершчык да начальніка гміны:

— Вось на вас напісалі скаргу... Што вы з гэтай прычыны скажаце?

Начальнік:

— А скажу тое, што яна мне непатрэбна.

## ТАК ПАВЯЛОСЯ

— Маня, ці праўда, што ты за ўдаўца выходзіш? У яго ж двое дзяцей?

— А што ж тут дзіўнага? Цяпер усе з нагрузкай...

## МЫШ НА БАЗЕ

Калісь у крамніцы Антолі
„Мышы“ з'елі скрыню солі.
А пасля яшчэ, заразы,
Бочку выжлукцілі газы...
Сёння мышы ўжо не тыя —
Вам такі сакрэт адкрыю:
І на нашай неяк базе
Мыш-абжора завялася.
Жлукціць, шэльма,
ды з разборам,
Ромы, каньякі, лікёры...
Есць не соль ці што папала,
А каўбасы, цукар, сала.
З'ела тону мяса ўчора
І не лопнула абжора.

---

Ёй усё сыходзіць з рук —
Рэвізорам жа Пацук.

**Віктар Акуліч**

Сёй-той лічыць сябе ільвом толькі таму, што атрымлівае ільвіную частку.

## НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Муж вяртаецца з працы і застае жонку ў слязах.

— Што здарылася, дарагая?

— Ах, мілы, я спякла табе торт, а Трэзар яго злопаў!

— Ну, не гаруй так! Я куплю табе другога сабаку.

*

Вядомая кіназорка і не менш вядомая пісьменніца не выносілі адна другую. Аднойчы яны сустрэліся.

— Ваша апошняе апавяданне дасканалае, — з іроніяй заўважыла актрыса. — Не маглі б вы сказаць, хто яго напісаў?

— Мяне вельмі ўцешыла, што маё апавяданне вам спадабалася, — адказала пісьменніца. — Мне толькі хацелася б даведацца, хто вам яго прачытаў?

*

— Скажыце, доктар, а вам заўсёды ўдаецца вырваць зуб без болі?

— На жаль, не. Учора я, напрыклад, вывіхнуў сабе руку...

Вы маеце рацыю, пані генеральная консульша, — у Рамэя штаны падраныя!..

## БЕЗ ЗМЕН

— Дзядзьку Ігнат, як ваша здароўе?

— Ды якое там здароўе. Што ў трыццаць, што ў семдзесят гадоў — аднолькавае. Бо вось, бачыце, камень на гародзе ляжыць. Дык я яго чацвертае дзесяцігоддзе ніяк падняць не магу.

## НА ЗАПЧАСТКІ

Суседка нейк кажа пяцігадоваму хлопчыку:

— Тата з мамаю купілі сабе машыну, а цяпер хай купяць табе брацíка ці сястрычку.

— Дзе там яны купяць! — адказвае малы. — Спярша грошы збіралі на машыну, а цяпер — на запчасткі.

З „Весніка Задрыпоніі“

## УМЕЛЫЯ РУКІ

Калі вынесці з працы скарыстаную бочку з-пад саляркі, прыварыць яе дома да цэнтральнага ацяплення і зрабіць з яе скарбонку, дык можна назбіраць шмат грошай.

## ТРЫНАЦЦАТАЯ ЗАРПЛАТА

Трынаццатую зарплату атрымаў нарэшце і Андрэй Ухмілок: за 28 гадоў ён адпрацаваў толькі трынаццаць месяцаў.

— Бывай здаровая, мамуля, і не зводзь з іх вачэй.

# КУРЁЗЫ

## АМЕРЫКА!

Нядаўна міністэрства юстыцыі ЗША апублікавала ёмісты даклад. У ім прыводзяцца такія даныя: па абвінавачанню ў тых ці іншых правапарушэннях за апошнія два гады ў краіне арыштавана 40 мільёнаў чалавек. З іх два з палавінай мільёна адбываюць турэмнае зняволенне. У сярэднім у ЗША штогод паліцэйскія фіксуюць 20 тысяч забойстваў.

## УСЁ БЫЛО ЦУДОЎНА

Горад Раскіле ў Даніі вядомы як месца музычных фестываляў. Апошні фестываль рок-музыкі, які там праходзіў, быў, на думку ўлад, адным з найспакайнейшых. Усяго толькі шасцíста асобам давялося адведаць санітарныя палаткі, каб атрымаць там першую медыцынскую дапамогу, усяго толькі трыццаць з іх былі адпраўлены ў бальніцу і ўсяго толькі сто дзве асобы з прысутных былі арыштаваны за бойкі, гандаль наркотыкамі і інш.

Як мала трэба, каб захацець многа!